# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 8 (417) | ГОД IX | 23 ЛЮТАГА 1964 г. | ЦАНА 60 ГР


## РЭПАРТАЖ АБ ЛЮДЗЯХ ДВАЦЦАЦІГОДДЗЯ

# НЕСПАКОЙНЫЯ

Ад нядаўна ў Кляшчэлях існуе эксперыментальны комплексны асродак культурнага жыцця пры школе. Кожная навіна — для журналіста ласы кавалак. І таму мы тут як тут. Размаўляем з кіраўніком школы, потым яшчэ са старшынёй ГРН. Аб працы грамадскім чынам (Кляшчэлі перадавыя ў гэтым), аб згодным супрацоўніцтве ГРН, школы, ГС, ПОМ, пункта аховы здароўя, партыйнай арганізацыі (116 членаў), СПР (3 паралельныя класы — 115 вучняў). На недахоп тэм нельга наракаць, гаворачы аб Кляшчэлях. З часам нашая пачатковая знаёмасць пашыраецца. З'яўляецца яшчэ адзін тутэйшы чалавек. Постаць на рэдкасць сімпатычная і сардэчная з першага погляду. Галіна Харшляк — настаўніца і апора культурнага жыцця Кляшчэль. Прыватна — жонка кіраўніка школы.

Яна Харшляка па-рознаму завуць. Жонка — «грамадскай ёлкай» (choinka społeczna) — значыць, абвешаны грамадскімі абавязкамі, нехта назваў яго «кляшчэляўскай энцыклапедыяй», бо кіраўнік школы ўсё ведае аб Кляшчэлях. Нехта яшчэ назваў Яна Харшляка «трактарам, на якім Кляшчэлі едуць да сацыялізма». А сам Харшляк у той час разважаў, што ў інтарэсе добра пастаўленай сельскай гаспадаркі трэба школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі перастаць трактаваць як беднага сваяка, а надаць ім ранг нармальнай сярэдняй школы. Сям'я Харшлякоў прыехала на Беласточчыну з Келецкага. Галіна Харшляк — народжана ў Варшаве. Цяпер гэтыя людзі ў Кляшчэлях жывуць, працуюць, бо праца — іх радасць і іх адпачынак.

Мой рэпартаж аб кляшчэляўскіх людзях. Іх там, такіх людзей з вялікай літары, нямала. Прадстаўлю: старшыня ГРН — Яўгень Ефімчук, пад кіраўніцтвам якога напраўлены дарогі, пасаджаны лес на 900 га. У самых Кляшчэлях пракладзены ходнікі, пасаджаны дрэўцы, да таго лазня, басейн. «Мы не працягваем рук да павета — дайце. Робім самі. Няхай убачаць і, калі могуць, дадуць». Вось будова грамадскага дома культуры. Цяпер усімі сіламі ГРН збірае сродкі. Агульная згода — па 100 зл. ад сям'і, па 1 працэнце ад заробкаў працаўнікоў. Каб прыступіць да будовы, трэба ў 1964 г. сабраць 300 тысяч зл. Але ў Кляшчэлях (не помню ўжо хто) сказалі: «мы ўсё, што запануем, выконваем». Сакратар грамадскага камітэта партыі Мікалай Дзмітрук сціпла заўважае: «Людзям нашым верым». Іменна, усё залежыць ад людзей.

Найлепшым вучнем у мінулым годзе на вячэрняй школе для дарослых па праграме 6—7 класаў быў Антон Насковіч, год каля 60. Закончыў школу без тройкі, лепш ад маладых. У тым часе, як вучыўся, жонка цяжка хварэла, дзеці ў хаце, але ў Кляшчэлях кажуць: «Калі што пачнем, мусім дакончыць». У гэтым годзе вячэрняя школа таксама мае свайго героя. Ян Астапчук, таксама па 50. Не прапускае ніводнага дня. У Кляшчэлях наогул многа старэйшых вучыцца — палавіна ўсіх удзельнікаў вячэрняй школы — людзі каля пяцідзесяці, або ўжо пераступілі гэты парог. Радасна запісваць такія факты, ва ўпор тым, што махаюць рукой: «Зямлю абрабляць — не трэба навукі». Памылка!.

Лекар мясцовага пункта аховы здароўя Аляксандр Малец. Будучы ўжо на пенсіі, працуе па 7—8 гадзін, замест 2-х, за якія атрымлівае зарплату. У Кляшчэлях кажуць, што шукаць доктара трэба толькі ў двух месцах: або ў пункце аховы здароўя, або на пасяджэнні,

(Працяг на стар. 3)

Пад сцяной расселіся маладухі ў народных уборах. На стар. 5 чытайце «У багатых сяброў многа».



ДА 150-Й ГАДАВІНЫ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ТАРАСА ШАЎЧЭНКІ



ЯЗЭП ПУШЧА

## ТАРАСУ ШАЎЧЭНКУ

На высокай кручы, над Дняпром-ракою,
Слухаюць народы песню грамадою,
Слухаюць Тараса, сына Украіны.
Не зламалі буры крыл яго арліных,
Над Радзімай сокал узляцеў высока
І акінуў вокам зямлю ўсю навокал.
Сонечныя далі, радаснае ранне...
«Запавет» спяваюць і Дняпро, і Канеў,
І браты, і сёстры, вербы і каліны,
І сыны, і ўнукі маці — Украіны.
Далучаўся голас роднага Купалы:
Досвіткам усталі, сонца не праспалі.
О, Кабзар — музыка, чарадзей вялікі,
Да шчаслівай долі свой народ ты клікаў:
«Ланцугі няволі скінь, разбі, народзе,
Родныя хай нівы табе шчодра родзяць».
Над Дняпром шырокім, на высокай кручы
Слухаюць народы голас неўміручы.

## Вясковыя дзеці

Маральная пастава вясковых дзяцей — вось адна з менш вядомых тэм, якімі займаюцца даследчыкі. Тым больш каштоўнымі з'яўляюцца доследы ў рамках плану працы ПАН, якія праводзяць Ганна Малеўская і Геліядор Мушынскі. Іх доследы прысвечаны шасцікласнікам, у тым ліку і вясковым. Аўтары адразу высяняюць: «Наогул мы не заўважылі значнай розніцы паміж грамадскім паходжаннем дзіцяці (за падставу мы бралі прафесіянальную пазіцыю бацькоў) і яго маральнымі поглядамі... Мы заўважылі, што значна большае значэнне на фарміраванне маральнай паставы дзіцяці аказвае спосаб іх пакарання...»

І аказваецца, што падзел на спосабы пакарання, на «найчасцей ужываныя выхаваўчыя сродкі» (біццё, крык, адмова ў прыемнасцях, пераканакне) супадаюць у значнай меры з падзелам на грамадскія асяроддзі. Вясковыя дзеці — дзеці бітыя. 70% «выхаваўчых рэакцый» іх бацькоў — гэта фізічныя рэпрэсіі. Пераконванне не ахоплівае 10% тых сродкаў. Для параўнання: у асяроддзі інтэлігенцыі з вышэйшай адукацыяй, якое найбольш адрозніваецца стылем выхавання, біццё складае 12% тых сродкаў, пераконванне — 22%, а галоўная роля прыпадае адмове ў прыемнасцях — каля 50%.

Згода, што сціранне розніцы паміж маральнай паставай дзяцей з вёскі і іншымі дзецьмі з'яўляецца ў нейкай ступені вынікам ліквідацыі культурнай і грамадскай ізаляцыі вёскі. Але ці выраўнанне ўмоў асяроддзя ў нашай краіне дасягнула ўжо такога ўзроўню, пры якім можна прапагандаваць універсальныя, аднолькава для іх добры набор выхаваўчых сродкаў? Гэта не рытарычнае пытанне: як гавораць аўтары, доследы ПАН вядуцца з выразнай практычнай мэтай — дапамагчы сфармуліраваць рацыянальную праграму выхавання.

(Працяг на стар. 5)

# „Амерыканская апінія"

«American Opinion» — гэта назва найбольш рэакцыйнага часопіса ў ЗША, і выдае яго не менш рэакцыйная арганізацыя, так званае «Аб'яднанне Джона Бірча». Адразу пасля забойства Кенедзі часопіс гэты спрабаваў змясціць артыкул, у якім прадстаўляў прэзідэнта як «агента Масквы» і найбольшага ворага амерыканскага народа. Тады, у снежні мінулага года, пры наяўнасці атмасферы агульнай жалобы, артыкул забаранілі друкаваць. Сёння аднак сітуацыя ў Амерыцы перамянілася. Аб Кенедзі мала хто памятае, а рэакцыя робіць усё, каб постаць забітага прэзідэнта прадставіць у карыкатурным святле. Апошні нумар «American Opinion» змяшчае вышэй упамянуты артыкул. Аўтарам яго з'яўляецца Рэвіло Алівер, член краёвай рады аб'яднання Джона Бірча. Хто ён такі? Алівер з'яўляецца выкладчыкам латыні і рымскай культуры ў Чыкагскім універсітэце. Яшчэ юнаком быў звязаны з баявымі дружынамі амерыканскіх фашыстаў. Як член гэтых дружын некалькі разоў наведаў гітлераўскую Германію, якой выказваў вышэйшае захапленне. Алівер займаецца гісторыяй як аматар. На старонках «American Opinion» часта публікаваў артыкулы, патураючыя расісцкім тэорыям славутага Альфрэда Розенберга. У гэтых артыкулах сумленнага, хоць і далёкага ад прагрэсіўнасці англійскага спецыяліста па гісторыі і міжнародных адносінах Алівер называе «мізэрным агентам Масквы», а аб лекары сусветнай славы, які шмат гадоў працаваў сярод афрыканскіх неграў, напісаў: «Вашывы каханак чорных». Нягледзячы на гэтыя ашаламляючыя выказванні, Алівер на працягу шмат гадоў быў членам рады універсітэта і атрымоўваў дзяржаўныя ўзнагароды.

Пяройдзем аднак да апошняга артыкула ў «American Opinion». «Памяць аб Кенедзі заўсёды будзе выклікаць непрыемны асадак у карэнных амерыканцаў, — сцвярджае ва ўступе Алівер, пасля чаго бліжэй выясняе гэты погляд: — Кенедзі ў рэчаіснасці напусціў амерыканскую разведку арганізаваць напад на Кубу толькі таму, каб асмяшыць гэтую ўстанову перад народам». Алівер выдумаў таксама мэту, дзеля якой прэзідэнт ЗША наладзіў гэтую няслаўную аферу. «Кенедзі рабіў гэта для таго, — піша ён, — каб даць магчымасць СССР перакінуць свае войскі на Кубу, а пасля выкарыстаць іх для нападу на ЗША».

Інакш кажучы, паводле Алівера, Кенедзі быў савецкім агентам, бо ў паразуменні з Масквой рыхтаваў напад на ўласную краіну.

З другога боку Алівер не мае сумненняў, што замах на Кенедзі зрабілі камуністы, ад імя якіх дзейнічаў Асвальд. Супярэчнасць, якая існуе ў такім поглядзе, для Алівера не існуе. Паводле яго, камуністы самі рашылі ліквідаваць Кенедзі, таму што: «...Не стрымаў сваіх абавязацельстваў, каб да канца 1963 года ўладу ў ЗША перадаць у рукі камуністаў і стаў віноўным...»

У далейшай частцы артыкула Алівер сыпле грамы і маланкі на брата Кенедзі — Роберта (цяперашняга міністра справядлівасці) і на ўвесь дзяржДэпартамент, быццам бы апанаваны камуністамі. Гэтыя «творчыя» разважанні канчаюцца апакаліптычнай візіяй будучыні. «Калі амерыканцы страцяць сваю незалежнасць, — піша вядучы ідэолаг амерыканскіх фашыстаў, — і стануць пад кулямі карных каманд чырвонага захопніка... апошнія іх думкі вернуцца да Кенедзі і яго палітыкі».

Амерыканскаму чытачу застаецца зрабіць толькі лагічныя вывады з гэтых разважанняў. Значыць, абавязаны ён стаць актыўным членам аб'яднання Джона Бірча, бо толькі ў такім выпадку можна пазбыцца пагрозы камунізма ў Злучаных Штатах. Карацей кажучы, фашызм, паводле гэтых разважанняў, гэта адзіны ратунак для Амерыкі.

Добра, — скажа нехта, — але ж фашысцкія арганізацыі сёння ў ЗША не маюць многа прыхільнікаў. Так, гэта праўда. Але так, як у свой час гітлерызм, яны з'яўляюцца найбольш арганізаванымі групіроўкамі, што ва ўмовах адарвання грамадства ад палітыкі (якое назіраецца ў ЗША) можа прынесці катастрафальныя вынікі. Здзіўляе, напрыклад, факт, што вывады такога Алівера не сустракаюць ніякай рэплікі.

Такая атмасфера спрыяе дзейнасці сенатара Гальдватэра, які зусім не скрывае сваіх фашысцкіх поглядаў. Ён нават намагаецца, каб высунулі яго кандыдатуру ад рэспубліканскай партыі на прэзідэнта ЗША ў сёлеташніх выбарах.

З гэтых разважанняў можна зрабіць адзін несумненны вывад: ЗША пагражае небяспека фашызму, і гэта незалежна ад сапраўдных поглядаў амерыканскага грамадства.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

## Нацыянальнае пытанне

# ЯК РАЗУМЕЎ ЛЕНІН

Ленін у 1913—1914 г.г. разгарнуў велізарную тэарэтычную працу ў галіне нацыянальнага пытання. За паўтара года перад вайной на старонках бальшавіцкага друку ім было апублікавана на гэту тэму звыш 20 прац.

Сярод іх вылучаюцца «Тэзісы па нацыянальным пытанні», «Крытычныя заўвагі па нацыянальным пытанні» (X—XII 1913 г) і «Аб праве нацый на самавызначэнне» (II — V 1914 г.)

У працах гэтага перыяду Ленін раскрыў тэарэтычныя асновы нацыянальнай праграмы бальшавікоў і паказаў, што гэта праграма зыходзіць з аб'ектыўных заканамернасцей развіцця грамадства, аб'ектыўных законаў развіцця нацый і нацыянальных рухаў і іх канкрэтнага праяўлення ў Расіі. Улік канкрэтна-гістарычных асаблівасцей нацыянальнага пытання ў Расіі — зыходны прынцып ленінскай праграмы па нацыянальным пытанні.

«Безумоўным патрабаваннем марксісцкай тэорыі пры разглядзе якога б там не было сацыяльнага пытання з'яўляецца пастаноўка яго ў **акрэсленыя** гістарычныя рамкі, а затым, калі гутарка ідзе аб адной краіне (напрыклад, аб нацыянальнай праграме для дадзенай краіны), улік канкрэтных асаблівасцей, якія адрозніваюць гэту краіну ад іншых у межах адной і той жа гістарычнай эпохі».

Маркс, Энгельс, Ленін раскрылі заканамернасці ўтварэння і развіцця нацый і нацыянальных дзяржаў. Яны паказалі, што паняцце нацыі нельга змешваць з паняццем племені і расы. Калі раса — катэгорыя біялагічная, дык нацыя ўяўляе сабою катэгорыю сацыяльную. Нацыя разам з тым катэгорыя гістарычная, якая ўзнікла на акрэсленым этапе грамадскага развіцця.

Марксісцкае паняцце нацыі абвяргае ідэалістычныя тэорыі нацыі, якія апраўдваюць розніцу ва ўзроўню развіцця нацый іх рознымі біялагічнымі ўласцівасцямі, непаўнацэннасцю адсталых народаў і г.д. Марксізм даказаў, што розніца ва ўзроўню развіцця нацый вызначаецца не якімі-небудзь біялагічнымі якасцямі, а выключна сацыяльна эканамічнымі ўмовамі. Калі тыя ці іншыя народы адсталі ў сваім развіцці, то прычыны гэтага скрываюцца ў эканамічным і палітычным пананванні эксплуататарскіх класаў, у сацыяльнай, класавай няроўнасці.

Працэс утварэння нацый і нацыянальных дзяржаў працякаў неаднолькава ў розных краінах. Ленін выявіў істотную розніцу паміж краінамі Заходняй і Усходняй Еўропы з пункту гледжання развіцця там нацый і нацыянальных дзяржаў у даімперыялістычную эпоху.

### НАЦЫЯ І НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЗЯРЖАВА

У Заходняй Еўропе ўтварэнне нацый супала ў асноўным па часе з працэсам утварэння цэнтралізаваных дзяржаў. Гэтыя два працэсы адбыліся ў эпоху ліквідацыі феадалізму і ўстанаўлення капіталізму (канец XVIII ст. да 70-х гадоў XIX ст.). Пад канец гэтай эпохі краіны Заходняй Еўропы пераўтварыліся ў склаўшуюся сістэму буржуазных дзяржаў, па агульнаму правілу нацыянальна - адзіных (Англія, Францыя, Італія і інш). Такім жа быў шлях нацыянальнага развіцця ЗША і Японіі.

Інакш праходзіў працэс нацыянальнага развіцця краін Усходняй Еўропы — Расіі, Аўстрыі, Венгрыі і інш. Тут цэнтралізаваная дзяржава ўтварылася раней ліквідацыі феадалізма і з'яўлення нацый. Утварэнне цэнтралізаваных дзяржаў было прыспешана інтарэсамі самаабароны супраць нашэсця туркаў, манголаў і іншых народаў Усходу. У выніку такога працэсу нацыянальнага развіцця на ўсходзе Еўропы першапачаткова ўзніклі не нацыянальныя дзяржавы, як на захадзе Еўропы, а шматнацыянальныя. У склад кожнай такой дзяржавы ўвайшлі больш сільная, пануючая нацыя, і некалькі слабых падначаленых нацыянальнасцей.

Менавіта таму шматнацыянальныя дзяржавы Усходняй Еўропы: Расія, Аўстрыя і Турцыя — з'яўляліся арэнай шырокага разгортвання нацыянальных канфліктаў і нацыянальных рухаў.

# АСТАП ДЛУСКІ



12 лютага, пражыўшы 72 гады, памёр выдатны барацьбіт за справу польскага і міжнароднага рабочага руху Астап Длускі. Яшчэ ў юнацкія гады Астап Длускі пачаў палітычную дзейнасць у левым крыле Польскай сацыял-дэмакратычнай партыі Галіцыі і Шлёнска, а ад 1918 года — у Камуністычнай партыі Польшчы. За палітычную дзейнасць Астапа Длускага неаднойчы арыштоўвалі і судзілі. Быў ён абвінавачаны ў славутым свентаюрскім працэсе. Пасля выйсця з турмы далей прадаўжае партыйную дзейнасць як член сакратарыята КПП.

Другая сусветная вайна насцігла Астапа Длускага на эміграцыі ў Францыі. Ён актыўна ўдзельнічае ў падпольным руху супраціўлення. На радзіму Астап Длускі вярнуўся ў 1945 годзе. З нястомнай энергіяй прыступае ён да працы над арганізацыяй і ўмацаваннем народнай улады, як галоўны рэдактар органа ЦК ППР «Глос люду». Ад 1 з'езда быў членам ЦК ПАРП і паслом у Сейм.

Астап Длускі быў перадавым дзеячом сусветнага руху абаронцаў міру. У 1961 годзе яму прызнана ленінская прэмія «За ўмацаванне міру між народамі». Атрымаў таксама найвышэйшую ўзнагароду нашай краіны «Ордэн будаўнічых Народнай Польшчы».

## Спорт

# РУШЫЛА ЛАВІНА

Пасля паражэння ў Інсбруку на ўвесь голас загаварылі аб тым, што галоўную ўвагу трэба накіраваць не на Закапанэ, а на Беласточчыну, а дакладней, на Голдап. Там сярод здаровай моладзі трэба шукаць будучых удзельнікаў алімпійскіх гульняў. Аб гэтым гаварылася ўжо даўно, але мы працягвалі заставацца ў ценю гор. На гэты раз аднак, што падкрэсліваем з радасцю, лавіна рушыла. Не разбуральная лавіна, а канструктыўная, якая будзе развіваць лыжны спорт на галдапскай лыжні. Доказам гэтага была спартакіяда на Кубак нізін і гарадоў. Гэтая спартакіяда дала такую порцыю аптымізму, якой даўно ўжо мы не мелі ў белым спорце.

Аб поспехах Беластока, які ўпершыню заваяваў Кубак гарадоў, не будзем шмат гаварыць. Ёсць больш важныя справы.

Усе тры дні спартакіяды ў Галдапі быў цэлы «штаб» польскіх лыжнікаў. На супольнай канферэнцыі з ваяводскімі і павятовымі ўладамі быў намечаны вельмі цікавы план развіцця класічнага лыжнага спорту ў Галдапі.

Вырашылі пачаць ад школ. Хутка ва ўсіх галдапскіх школах будзе ўведзена як абавязковая язда на лыжах. Разглядаецца пытанне аб арганізацыі вырабу лыж на месцы, бо клопаты з лыжамі мае ўся Польшча. Спецыяльна будуць падрыхтоўвацца для вядзення лыжных заняткаў настаўнікі фізічнага выхавання і інструктары. Каб усё гэта правесці ў жыццё, Польскі саюз лыжнага спорту і ваяводскія ўлады абавязаліся ўдзяляць вялікую дапамогу. Ёсць ужо нават доказы гэтага. У час спартакіяды на Кубак нізін і гарадоў быў аддадзены ў карыстанне новы трамплін, на якім адбыліся ў мінулую нядзелю першыя скокі.

Як бачым, рушыла лавіна.

**Л. Тарасевіч**

## УСПАМІНЫ КАМУНІСТАЎ

8)

# Уладзімір Станкевіч
# АДЗІН З МНОГІХ

У 1925 годзе камуністычны рух пашырыўся ў Заходняй Беларусі надзвычай моцна, хоць усюды праводзіліся масавыя арышты. Нават можна было б сказаць, што рух развіваўся насуперак арыштам, якія не запалохвалі працоўных, а яшчэ больш іх аб'ядноўвалі і рэвалюцыянізавалі. Зрэшты, так было не толькі ў Заходняй Беларусі. У тым часе і ў Заходняй Украіне і ва ўсёй Польшчы быў вялікі ўздым рэвалюцыйнай хвалі, што было, як вядома, адной з галоўных прычын майскага перавароту Пілсудскага ў 1926 годзе.

У нашай Вяліка - Берастаўіцкай гміне кампартыя і камсамол выраслі ў вялікую і аўтарытэтную сілу. Такое самае становішча было і ва ўсіх амаль гмінах Гродзенскага павета, ды і ва ўсім Беластоцкім ваяводстве — у гарадах і вёсках.

Усе намаганні прыслужнікаў памешчыцка - буржуазыйнай улады нацкоўваць адных на другіх жывучых разам у многіх раёнах Беласточчыны беларусаў і палякаў не давалі вынікаў.

У верасні ці ў кастрычніку 1925 года ў складзе нашага райкома камсамола адбыліся змены. Другі сакратар і тэхнік адыходзілі на вайсковую службу. Райком партыі дакаапатаваў на іх месца двух іншых актывістаў. На пасяджэнні райкома, выкарыстоўваючы змены, я папрасіў даць мне абавязкі тэхніка, бо вельмі любіў нашу тэхнічную работу. Але замест гэтага мяне выбралі другім сакратаром райкома.

Вялікія абавязкі першага сакратара прыдзяліў мне райком у лютым 1926 года. У сакавіку я прымаў удзел у акружной канферэнцыі Камуністычнага Саюза Моладзі Заходняй Беларусі ў Беластоку, на якой мяне выбралі членам акружнога камітэта. З гэтага часу даводзілася мне часцей бываць у Беластоку.

Каб мець нейкае апраўданне для сваіх выездаў у Беласток, я дагаварыўся з працуючай у Беластоку дзяўчынай з нашай вёскі, быццам мы з'яўляемся нарачонымі і таму я прыязджаю яе адведваць. Яна працавала служанкай у багатага купца. Гаспадары, вядома, ведалі аб нашым «нарачэнстве» і нават бачылі часам нашыя «патаемныя» пацалункі, таму сведкі з іх у выпадку чаго былі б пэўныя.

Да працы ў Беласток выязджала шмат дзяўчат не толькі з вёсак нашай гміны. Выязджалі працаваць і камсамолкі. Абмеркаваўшы справу з сакратаром акружкома, я арганізаваў у Беластоку з нашых дзяўчат — камсамолак ячэйку з 5-ці або 6-ці асоб, якая з часам разраслася ў некалькі вельмі актыўна дзейнічаючых ячэек. Выраслі ў іх вядомыя потым дзеячы КПЗБ, як Вера Валейка, Вера Жыгмант і іншыя.

Асабліва вялікую карысць давалі камсамолкі-служанкі нашай тэхніцы. Яны забяспечвалі партыйнай і камсамольскай літаратурай раёны, бо іх паездкі з Беластока ў вёскі не былі падазронымі.



# ГЕОРГІ СКАРЫНА НА ЭКРАНЕ

Сярод разнастайных работ Мінскай студыі навукова - папулярных і хранікальна - дакументальных фільмаў асобнае месца займае жанр гісторыка - біяграфічнага фільма. За апошні час на студыі выпушчаны фільмы «Янка Купала», «Якуб Колас», «Кастусь Каліноўскі».

Нядаўна на экраны выйшла новая работа маладога рэжысёра Уладзіміра Скітовіча — навукова-папулярны фільм «Георгі Скарына». Што вабіць у гэтым фільме, чаму не забываецца тое, што бачым на экране? Перш за ўсё звяртае ўвагу беражлівае і творчае стаўленне рэжысёра да абранай тэмы. Гэта і дапамагло яму стварыць цікавы вобраз вялікага Георгія Скарыны, сучасніка Леанарда да Вінчы, Галілея, Калумба.

У адной з першых фраз фільма ёсць такія словы: «Доўгі час асоба беларускага першадрукара Георгія Скарыны заставалася загадкай. Што ж мы ведаем пра яго зараз?» — І, як быццам у адказ на гэта пытанне, на экране ўзнікае сховішча старажытных кніг. Сярод іх кнігі, надрукаваныя Скарынай: «Біблія руская», «Апостал», «Малая падарожная кніжыца». Кнігі, кнігі, гэты «вялікі цуд, створаны чалавецтвам...» Павольна і велічна праплываюць яны на экране, — вялікія, у цісненых вокладках, — быццам сам час праходзіць перад вачыма, далёкі і мудры час...

**В. Лаўроў**
«Голас Радзімы»

У МУЗЕІ РЭВАЛЮЦЫЙНАГА РУХУ

# ВЫСТАЎКА 20-ГОДДЗЯ

**7 лютага ў Беластоцкім музеі рэвалюцыйнага руху (Кілінскага 6) была адкрыта выстаўка «Народная Польшча ў жывапісе, графіцы і рысунку». На ёй экспануюцца карціны з Варшаўскіх музеяў і некалькі з нашага, беластоцкага. У вельмі сціслай форме (нямнога карцін) тут паказана дарога Народнай Дваццацігодкі, пачынаючы ад карціны Сідэрскага «Рабочыя чытаюць маніфест ПКВН». Некаторыя карціны моцныя, хоць выражаны ашчаднымі сродкамі. Напрыклад карціна Лыжванскага «1 Май 1945 год». Тут усяго два матывы: на першым плане адна чырвоная пляма сцягоў, за якімі відаць чорныя, пашарпаныя шкілеты дамоў. Коратка ахарактарызаваць выстаўку можна так: аднаўленне, будова краіны, людзі, здарэнні 20-годдзя.**

**Выстаўка ўжо ад пачатку выплыла як немалаважнае культурнае здарэнне Беластока, аб чым можа сведчыць урачыстае адкрыццё і зацікаўленне шырокага круга наведвальнікаў.** **(вл)**

# НЕСПАКОЙНЫЯ

(Працяг са стар. 1)

калі нейкае ёсць. Бо др Малец — грамадскі дзеяч. Член павятовага камітэта партыі. Выступае з шматлікімі лекцыямі на вёсках на тэму здароўя і гігіены, а зарплаты за іх патрабуе дзіўнай: арганізацыі гуртка вясковых гаспадынь. Такім іменна чынам узніклі гурткі ў Дабрыводзе, Саках, Жуках. Кіраўнік школы расказваў, як аднойчы доктар, засопшыся, увечары ўлятае да яго: аўтобус не ўзяў, а там у вёсцы вызначана лекцыя, чакаюць. А на двары дождж, вецер, сабакі не выганіш. Раяць доктару адкласці на іншы раз. Са здзіўленнем і пагрозай доктар глядзіць — як жа, чакаюць, абяцаў. Кіраўнік выцягвае матацыкл і пхаюцца ў цемры ў далёкую вёску. Людзі сапраўды чакалі. З адной бабулькай доктар пасварыўся, што за яго дапамогу асмелілася прынесці нейкі падарунак. А да некага іншага два тыдні не адзываўся, бо той паклікаў доктара сярод ночы, збудзіўшы са сну, і хацеў за візіт заплаціць. Называюць часам доктара Мальца Юдымам (постаць лекара з рамана Жэромскага «Бяздомныя людзі»). Сапраўды, своеасаблівы гэта кляшчэляўскі, новы тып доктара Юдыма, поўны аптымізму. Калі аднойчы запрапанавалі Аляксандру Мальцу пасаду кіраўніка аддзела здароўя ў павеце, атрымалі раззбройваючы адказ: «што вы думаеце, я ўжо нічога не варты!»



Ян Харшляк

Дырэктар ПОМ-у Пётр Вільк гаворыць ціха, ашчадна. Зусім нетыповы дырэктарскі тон, да якога мы наогул прывыклі. Не дырэктарскі, але людскі. Гэта важнейшае, гэта найважнейшае. Гэта памагло яму зжыцца з людзьмі ў ПОМ-е, памагло знайсці ў іх патрэбную падтрымку і зразуменне. Квітнеючую цяпер інстытуцыю Пётр Вільк тры гады таму застаў у руінах. Былі размовы аб ліквідацыі ПОМ-у ў Кляшчэлях. А цяпер ён развіваецца, разбудоўваецца, пачалася вось праца ў новым варштаце, у будове яшчэ адзін, гігант. Распушчаныя, самавольныя людзі, якіх застаў Пётр Вільк, — цяпер першыя яго памочнікі. ПОМ мае ўжо прыгожы інтэрнат, а ўвосень тут будзе прызакладовая школа — кузня кадраў. «Што з механізацыі, калі няма кадраў?» — гаворыць дырэктар. Кадры для сельскай гаспадаркі — гэта «вочка» дырэктара Вілька. Пытанне гэтае разумее шырока і з перспектывай, а наколькі слушнае такое разуменне паказвае XIV Пленум і актуальныя патрэбы ўсёй нашай сельскай гаспадаркі.

Спяваюць у Кляшчэлях даўно. Мо' іменна гэтай расспяванай традыцыі трэба прыпісаць факт, што ў хоры для дарослых (ёсць яшчэ школьны хор) спяваюць пераважна старэйшыя. Некалькі прозвішчаў 50-гадовых спевакоў: Ян Сасноўскі, Юзэфа Паўловіч, Уладзіслаў Якубоўскі, Антон Младзяноўскі. Я пытала некаторых жанчын — харыстак безіменна: як з часам на гэтыя справы? Сказалі: «Так неяк прывычаіліся, што як трэба, дык ідзем».



Злева направа: Мікалай Дзмітрук — сакратар грамадскага камітэта партыі, Пётр Вільк — дырэктар ПОМ і Аляксандр Малец — доктар.

Калі размова ідзе аб маладых, дык Славэк Місеюк — ціхі хлапец з няпоўнай вышэйшай адукацыяй — бібліятэкар і кіраўнік тэатральнага гуртка, ім самім арганізаванага. Таленавіты і працавіты, не ўцякае з Кляшчэль, як многа іншых маладых. Для яго і тут месца добрае і тут яго хопіць.

Сярод кляшчэляўскіх людзей нельга прамінуць прэзэса ГС. Вядома, што ГС-ы маюць сродкі, якімі могуць памагчы асяроддзю. Не ўсе аднак ГС-ы і не ўсе прэзэсы хочуць. У Кляшчэлях інакш. Тут супольныя інтарэсы найважнейшыя. Тэлевізар у школе для ўсіх — адзін з момантаў уласцівага падыходу ГС да культуры. У Кляшчэлях пануе думка, што з прэзэсам Сяргеем Зінчуком многа добрага можна рабіць.

Або старшыня бацькоўскага камітэта школы Мікалай Леанкевіч, які сам, як кажуць, за нішто, прышчапіў 150 пладовых дрэвак у школьным гадавальніку.

Кляшчэлі многа (толькі цешыцца з гэтага) маюць ціхіх герояў працы, каб можна было ўсіх іх тут пералічыць, каб нават можна было аб іх даведацца. Менш ці больш яны падобны да тых, аб якіх я расказала.

Кляшчэлі здаюцца нам прыкладам старту малых мястэчак, старту тым каштоўнейшага, што крыніцы яго ў грамадскай ініцыятыве, у сілах неспакойных духам людзей, — людзей нашага слаўнага Дваццацігоддзя.

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**

# УЛАДАР ДУМ І СПАДЗЯВАННЯЎ НАРОДНЫХ

25 лютага спаўняецца знамянальная гадавіна ў гісторыі украінскай і сусветнай літаратуры — 150-годдзе з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі.

Творчасць вялікага Кабзара складае каштоўны паэтычны летапіс жыцця народа, з'яўляецца праўдзівым люстрам той эпохі, якая нясла з сабою прадвесце будучых рэвалюцыйных бур і зрухаў. Разам з тым сам пясняр прайшоў шлях, які даў яму магчымасць дакладна спазнаць на сваім уласным вопыце нядолю працоўных, іх галечу і няшчасці. Кароткім, аднак як жа ж шматпакутным было жыццё Шаўчэнкі! Амаль 24 гады быў ён прыгонным, 10 год знаходзіўся ў ссылцы радавым салдатам, а 13 год уважліва за ім сачыла царская паліцыя. Аднак ніякая сіла не патрапіла зламаць песняра, а наадварот, гартавала і надавала яго паэзіі рэвалюцыйны характар.

У 1840 годзе ў Пецярбургу з'явіўся першы паэтычны зборнік Т. Шаўчэнкі «Кабзар», заключаючы ў сабе восем твораў. Ён адразу прынёс аўтару шырокую вядомасць і адкрыў у гісторыі украінскай літаратуры новую эпоху. Наступны — 1841 год — даў свету вядомую паэму «Гайдамакі». Шаўчэнка як народны і нацыянальны паэт увабраў у сябе ўсе самыя запаветныя думы народа і здолеў паглядзець на навакольнае жыццё, на тагачасную прыгонную рэчаіснасць вачыма народа. Ідучы насустрач спадзяванням працоўных Украіны, разам з імі марыў аб тым часе, калі:

**Спочинуть невольничі**
**Утомлені рукі,**
**І коліна отпочинуть,**
**Кайданамі куті.**

Вялікае значэнне Тараса Шаўчэнкі заключаецца ў тым, што ён геніяльна адлюстраваў у сваёй багатай творчасці імкненне людзей да свабоды і непрымірымую нянавісць да яе душыцеляў. Рэвалюцыйнае мастацкае слова песняра аказвала магутнае ўздзеянне на яго сучаснікаў і выхоўвала будучых самаадданых змагароў за народную справу. Ён спалучыў усе свае найлепшыя імкненні з рэвалюцыянерамі - дэмакратамі — Бялінскім, Герцэнам, Чарнышэўскім, Дабралюбавым, якія былі ў той час сапраўднымі сцяганосцамі дэмакратычнай думкі ў Расіі. Справядлівую ацэнку тварчасці Тараса Шаўчэнкі даў Дабралюбаў. Рускі рэвалюцыянер - дэмакрат убачыў у ім вернага спадарожніка ўкраінскага працоўнага люду, сапраўднага народнага паэта: «Ён паэт сапраўды народны, — адзначаў Дабралюбаў, — увесь круг яго думак і спачуванняў знаходзіцца ў дасканалай адпаведнасці з сэнсам і ладам народнага жыцця». Гэтыя словы, як ніякія другія, аддаюць характарыстыку шаўчэнкаўскай паэтычнай і грамадска - палітычнай дзейнасці.

Вялікай павагай і любоўю карысталася і карыстаецца зараз паэзія Тараса Шаўчэнкі сярод беларусаў. Асабліва зачаравала яна Янку Купалу і Якуба Коласа, якія з ранніх год свайго жыццёвага і творчага шляху знаёміліся з вершамі і паэмамі украінскага песняра. У 1909 годзе малады Купала з гордасцю заяўляў у творы, прысвечаным Кабзару, што блізкай яму была муза песняра:

**І к нам тваё слоўца не раз далятала;**
**Мы слухалі ўцешна, што бае сусед.**
**Цяпер жа нясём ліст к вянку тваёй хвалы,**
**Прымі, брат, і наш, беларускі прывет!**

Многія творы Тараса Шаўчэнкі дачакаліся высокамастацкіх перакладаў на беларускую мову. Гэтай пачэснай задачай займаліся, акрамя Купалы і Коласа, Бядуля, Крапіва, Куляшоў, Броўка, Глебка. У першую чаргу была тут аддана ўвага «Кабзару» — гэтаму няўміручаму зборніку паэта.

Вечна жывая паэзія Тараса Шаўчэнкі. Сваімі ідэямі і мастацкімі якасцямі яна ўнясла неацэнны ўклад у сусветную літаратуру. Свята сёння ахоўваюць удзячныя нашчадкі тое месца, дзе спачывае прах вернага сына Украіны. Сябры, выпаўняючы апошняе завяшчанне паэта, перавезлі яго цела ў 1861 годзе (год смерці Т. Шаўчэнкі) з Пецярбурга на гару над Дняпром, паблізу Канева, і там пахавалі.

Успамінаем сёння з асаблівым хваляваннем словы шаўчэнкаўскага «Заповіту» як сведчанне незвычайнай скромнасці і адначасова геніяльнай дальназоркасці яго вялікага аўтара, які верыў, што здзейсняцца думы і спадзяванні народа аб свабодзе:

**І мене в сім'ї великій,**
**В сім'ї вольній, новій**
**Не забудьте пом'янути**
**Незлим тихим словом.**

**М. КАНАПАЦКІ**

# Каштоўныя сведчанні аб Шаўчэнцы

Добрую справу зрабіла Дзяржаўнае літаратурнае выдавецтва БССР, якое выдала кнігу п.з. «Т. Р. Шаўчэнка ва ўспамінах сучаснікаў». Гэтая цікавая навінка прыносіць нам шмат матэрыялаў аб жыцці вялікага украінскага Кабзара.

Сярод іх асаблівую цікавасць выклікаюць тыя, якія праліваюць святло на кантакты песняра з беларусамі ў пецярбургскі перыяд яго жыцця.

Сярод каштоўных публікацый на старонках кнігі знаходзіцца артыкул Р. Зянкевіча «Шаўчэнка і беларусы», які ўпершыню з'явіўся ў 1911 годзе ў №3 «Нашай Нівы», што выходзіла ў Вільні. З гэтай публікацыі даведваемся аб шчыльных сувязях украінскага паэта з групай беларускіх літаратараў — Янам Баршчэўскім, Рамуальдам Падбярэскім і другімі. Аказваецца, Т. Шаўчэнка праяўляў значную цікавасць да беларускай народнай творчасці і не раз слухаў беларускія народныя песні, якія спяваў яму Падбярэскі. Захавалася цікавае выказванне Шаўчэнкі пра паэму «Энеіда». Паэт цаніў гэты твор асабліва за яго беларускія элементы. У кнізе прыводзіцца таксама матэрыял аб знаёмстве паэта з вядомым тагачасным скульптарам, беларусам па нацыянальнасці, М. Мікешыным.

У цэласці выданне дае каштоўныя факты, якія ўзнаўляюць перад нашымі вачыма гэты хаця і даўно мінулы, аднак вельмі дарагі нам — перыяд. (мк)

# ПАСЫНКІ РАСЦВІТАЮЦЬ

Некаторыя вёскі з выгляду робяцца падобнымі да гарадоў. Напрыклад, Пасынкі на Бельшчыне. У іх ёсць электрычнае святло і радыё. Мінулай восенню сяляне вырашылі направіць вуліцу. Яны паклалі нарожнікі і зрабілі новую маставую. З двух бакоў абсадзілі вуліцу дэкаратыўнымі дрэвамі. Пачалі ўкладку ходнікаў, якая закончыцца гэтай вясною.

* * *

Раён пасынкаўскай пошты залічваецца да аднаго з лепшых у Бельскім павеце па колькасці падпісчыкаў друку. Ёсць тут 240 падпісчыкаў «Нівы», 160 падпісчыкаў «Газеты Беластоцкай» 128 падпісчыкаў «Грамады — рольнік польскі», 35 — «Пшыяцюлкі», 24 — «Хлопскай дрогі». мх

 

**Помнік Герою Савецкага Саюза генерал - лейтэнанту інжынерыйных войск Дзімітру Карбышову устаноўлены ў былым лагеры смерці ў Маўтхаўзене.**

**Карбышоў з'яўляўся выдатным ваенным спецыялістам і вучоным. Трапіў ён у рукі гітлераўцаў. Аднак, нягледзячы на ўсе іх угаворы і карыслівыя прапановы, ён не захацеў пайсці на супрацоўніцтва з гітлераўскім генеральным штабам. Фашысты вывелі яго на мароз і палівалі вадою да таго часу, пакуль зусім не абледзянеў і нерухома застыў на месцы.**

**(ся)**



# НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

## МІСІЯ „АЛСАС"

Адзін з кіраўнікоў прадукцыі амерыканскай атамнай бомбы генерал Гроўс меў вялікі голас у дзейнасці тайнай місіі «Алсас», якая атрымала заданне перахапіць нямецкія атамныя сакрэты і недапусціць да іх Савецкі Саюз і Францыю. Свае аперацыі ў Германіі місія «Алсас» пачала 24 лютага 1945 года. Перш за ўсё зацікавілася яна заводам «Ауэргезельшафт» у Аран'енбургу, які знаходзіўся на тэрыторыі будучай савецкай зоны — у пятнаццаці мілях на поўнач ад Берліна. Місія «Алсас» здабыла інфармацыю, што тут, іменна на гэтым заводзе адбываецца выпуск металаў торыю і ўрану, з якіх пасля можна атрымаць атамную энергію. Было мала праўдападобным, што місія «Алсас» зможа перахапіць завод, і таму генерал Гроўс параіў разбамбіць яго. Пятнаццатага сакавіка на працягу 30 мінут 612 «лятаючых крэпасцяў» восьмай паветранай арміі кінула паўтары тысячы тон звычайных і 178 тон запальных бомб. Будынкі рассыпаліся ў пыл. Сапраўдная прычына бамбёжкі Аран'енбурга была затоена перад немцамі і саюзнікамі такім спосабам, што дакладна ў той жа час была праведзена не менш страшная бамбёжка мястэчка Цосен, дзе знаходзіўся генеральны штаб нямецкай арміі.

Тым часам місія «Алсас» здабыла інфармацыі, паводле якіх вынікала, што асноўныя працы па атамнай энергіі вяліся ў Германіі ў раёне Фрэйбурга, Штутгарта, Ульма, Фрыдрыхсхафена. Значная частка гэтага раёна належала да тэрыторыі будучай французскай акупацыйнай зоны.

Супраціўленне гітлераўскіх войск слабела з дня на дзень. Французская армія прасоўвалася наперад і хутка дасягнула лінію, на якой павінна была спыніцца. Аднак некаторыя яе атрады пайшлі далей...

Тады 1279-ы батальён амерыканскіх інжынерных войск апярэдзіў французаў, заняў горад Хайгерлах і паспешліва прыступіў да дэмантажу адкрытай там лабараторыі. Уся справа была ў паказальным рэактары, перавезеным сюды ў месяцы лютым з Берліна і схаваным у тунелі пад высокай скалою. Калі паказаліся нарэшце тут французскія вайсковыя часці, было ўжо па ўсім — місія «Алсас» планавала наступную аперацыю. На другі дзень рота 1279-га батальёна заняла Хехінген, дзе знаходзілася лабараторыя атамнай фізікі і група выдатных нямецкіх вучоных — Вайцзекер, Віртц і інш. Ранкам занялі Тальфінген, дзе была знойдзена вялікая хімічная лабараторыя Ота Гана і Макса фон Лаўэ. У Штадтыльме місія «Алсас» выкрыла распіскі вучоных, якія атрымоўвалі на рукі тайныя дакументы і справаздачы. Вучоных арыштоўвалі аднаго за другім, але яны цвярдзілі, што ўсякія паперы знішчылі. Толькі Ган на запытанне пра матэрыялы адразу прызнаўся: «Яны ўсе ў мяне тут».

Місія «Алсас» працавала з усё большай паспешнасцю. У выніку ўмелага допыту нямецкіх вучоных была знойдзена нарэшце цяжкая вада, схаваная ў склепе старога млына паблізу Хайгерлаха. А за горадам, на ўзараным полі, было выкапана каля паўтары тоны невялікіх кубікаў металічнага ўрану. І цяжкая вада, і ўран былі вывезены праз Парыж у Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе адбываліся працы па канструкцыі першых атамных бомб. (У жніўні 1945 года яны былі кінуты на японскія гарады Хірасіму і Нагасакі).

Крыху пазней, 27 красавіка ў час вывазу нямецкіх вучоных, фізік-атамнік Вайцзекер неяк прагаварыўся аб сваіх таямніцах, і ў выніку гэтага былі знойдзены дакументы з апісаннем нямецкіх атамных доследаў. Паперы знаходзіліся ў шчыльна закрытай жалезнай бочцы, кінутай на сметнік каля дома Вайцзекера. У канцы красавіка місія «Алсас» інтэнсіўна займалася заканчэннем сваіх аперацый. Яшчэ не знайшлі некаторых важных вучоных — між іншым Гайзенберга. Зроблена ўсё, каб інфармацыі і вучоныя - атамнікі не трапілі ў савецкія рукі. Устаноўлена, што Гейзенберг выехаў з Хехінген на два тыдні перад прыходам батальёна 1279. Сляды ішлі ў Урфельд — у Баварскія Альпы. Трэцяга мая амерыканскія разведчыкі місіі «Алсас» нагналі Гейзенберга ў Урфельд. Гэта быў адзін з выдатных вучоных свету, і ў момант расколу Германіі ён значыў для амерыканцаў больш, чым дзесяць нямецкіх дывізій. У сваіх успамінах генерал Гроўс так піша: «Калі б Гейзенберг трапіў у рукі рускіх, ён аказаўся бы для іх неацэннай знаходкай. А так ён застаўся на баку Захаду. Мяркуючы па другіх дзеяннях, прадпрыйманых у той час, мы былі амаль адзінокімі ў разуменні патэнцыяльнай каштоўнасці нямецкіх вучоных для Расіі», — хваліцца генерал Гроўс, пішучы аб дзейнасці кіраванай ім місіі «Алсас».

Генерал зусім забыўся аб тым, што Савецкі Саюз уласнымі сіламі вельмі хутка дагнаў ЗША па прадукцыі атамных бомб і першым стварыў тэрмаядзерныя бомбы.

(а-ся)

## СІЯМСКАЯ БАБУЛЯ

70-гадовая бразілійка Разаліна Генрыгас адзначала нядаўна са сваёй сям'ёй — мужам і пяццю дарослымі дзецьмі і ўнукамі — дзень нараджэння. На гэты факт ніхто напэўна не звярнуў бы ўвагі, калі б не тое, што Разаліна нарадзілася як... сіямская сястра. Яна і яе сястра Марыя прыйшлі на свет, зросшыся груднымі клеткамі, і былі здольныя да жыцця. Разаліна ўспамінае сваё дзяцінства як кашмар: хадзілі разам з сястрой у адной спецыяльна для іх пашытай сукенцы, адначасова вымушаны былі ў час сну пераварочвацца, вымушаны былі бегаць у адным напрамку і з аднолькавай хуткасцю. У 1900 годзе, калі сіямскія сёстры мелі па 7 год, выдатны хірург Альвара Рамос узяўся правесці аперацыю. Разаліна добра перанесла аперацыю. Марыя памерла пасля пяці дзён. Аддзяленне сястры і яе смерць выклікалі ў Разаліны псіхічны шок. Аднак яна выздаравела і развівалася нармальна. На думку лекараў, Разаліна не павінна была выходзіць замуж і мець дзяцей. Гэта было для яе сапраўднай трагедыяй. Не гледзячы на забарону лекараў, маючы 33 гады, Разаліна выйшла замуж. Пазней нарадзіла яна шасцёра здаровых дзяцей. Пяцёра з іх жыве і сёння. «Я шчаслівая, што ўдалося мне нармальна пражыць жыццё, — гаворыць Разаліна. — У маіх умовах гэта вельмі многа».

(мх)






...кошка вельмі хутка прывыкае да дому і лёгка знаходзіць яго, калі нават адвезці яе на адлегласць 7—10 кіламетраў ад дому. Сусветны рэкорд належыць кошцы нейкага амерыканскага ўрача Марціна. Кошка не палічыла разумным перасяленне свайго гаспадара з Індыяны ў Пенсільванію, уцякла з дому і ў адзін цудоўны дзень з'явілася на старым месцы. Менш чым за месяц яна прабегла адлегласць у 1.120 км.

## За жыццё аленя

**Маладога аленя стукнуў праязджаючы самаход. Раненага яго прывезлі ў ветэрынарную клініку. Лекары прымянілі навейшыя метады лячэння, і ёсць надзея, што алень будзе жыць. На здымку: лекар накладае аленю кіслародную маску. Здарэнне мела месца ў Даніі.**

**(арг. в.л.)**



## „САТУРН" *Васіль Ардамацкі*

**Праз гадзіну Рудзін ужо ведаў аб плане Мюлера. Дакладней, ён ведаў пакуль толькі тое, што з гэтага дня Шчукін залічаны ў нейкую створаную пры «Сатурне» новую групу пад назвай «Два ікс». На другі дзень Рудзін даведаўся, што на трэці паверх, дзе размясцілася група «Два ікс», да Шчукіна даставілі вялікую групу ваеннапалонных. Значыць, у гэтай новай групе робіцца нейкі свой адбор агентаў.**

**У час абеду Рудзін спрабаваў наладзіць гутарку са Шчукіным. Той маўчаў.**

**— Вы што, — рассмяяўся Рудзін, — атрымалі павышэнне на адзін паверх і так зазналіся, што не хочаце гаварыць?**

**— Вы адгадалі, менавіта не хачу.**

**Увесь абед яны прасядзелі моўчкі.**

**Вечарам ад'ютант Зомбаха абыйшоў усе пакоі «Сатурна», запрашаючы супрацоўнікаў у кабінет палкоўніка.**

**Калі Рудзін увайшоў туды, усе крэслы былі заняты, толькі каля стала Зомбаха заставаліся свабоднымі два крэслы. Заўважыўшы Рудзіна, палкоўнік жэстам паказаў яму адно з гэтых крэслаў. Такое ж запрашэнне атрымаў і Шчукін.**

**Што гэта магло значыць? Рудзін не без трывогі назіраў за палкоўнікам.**

**— Увага! Устаць! — даў каманду Зомбах і ўзяў са стала ліст паперы. — Зачытваю загад штаба цэнтральнай групы войск.**

99

**Гэта быў загад аб узнагароджанні Крамера і Шчукіна медалямі «Знак з мячамі другой ступені». Да іх падыйшоў ад'ютант Мюлера Біркнер і ўручыў медалі.**

**Затым Зомбах пацісну ім рукі і сказаў кароткую віншавальную прамову.**

**Рудзін і Шчукін падзякавалі за ўзнагароду і паабяцалі апраўдаць давер. Ім скромна паапладзіравалі, і Зомбах аб'явіў цырымонію закончанай. Ужо на калідоры Шчукіна і Рудзіна дагнаў ад'ютант Мюлера Біркнер. Ён узяў іх пад рукі.**

**— Панове, мне даручана наладзіць для вас урачыстую вячэру. На жаль, дам не будзе! Прашу вас а дваццаць першай прыбыць у пакой, дзе я жыву.**

**Да вячэры заставалася менш гадзіны. Рудзін прыйшоў да сябе, сеў за стол, і пачаў абдумваць, як павесці сябе на вячэры. Чаму наладжанне вячэры даручана Біркнеру? Ён жа ні слова не разумее па-руску, а Шчукін дастаткова добра не ведае нямецкую. Ці ж не павінны былі падумаць аб гэтым? Значыць, чамусьці трэба, каб гаспадаром стала быў менавіта Біркнер. Чаму?**

**Убачыўшы накрыты стол, Рудзін адразу зразумеў, што давядзецца шмат піць — у цэнтры стала стаяла цэлая батарэя бутэлек, а з ежы было толькі некалькі банак кансерваў і хлеб.**

**— Пачнем з класікі, — аб'явіў Біркнер. — З рускай водкі. — Ён наліў гарэлку ў піўныя бакалы і падняў свой. — Панове, пакуль я яшчэ цвярозы, я павінен сказаць вам нешта разумнае. Дык вось, я таксама віншую вас з узнагародай і жадаю вам і новых поспехаў і новых узнагарод. Усё. На гэтым разумнае канчаецца, вып'ем.**

**Рудзін пераклаў яго словы Шчукіну і падзякаваў за пажаданні.**

**Гэты першы бакал выпілі стоячы і да дна. Перайшлі на каньяк. Рудзін падняў тост за фюрэра. Выпілі. Шчукін не дапіў. Біркнер гэта прыкмеціў і сказаў:**

**— За фюрэра так не п'юць.**

**Шчукін дапіў каньяк і сказаў:**

100

**— Папярэджваю, п'яны я агідны. Я намёртва засынаю за сталом і храплю, як вяпрук.**

**Біркнер, даведаўшыся, што ён сказаў, зарагатаў.**

**— Калі вы думаеце, пане Шчукін, што мы, ап'янеўшы, ператвараемся ў белых анёлаў, вы глыбока памыляецеся.**

**Біркнер рабіўся ўсё больш вясёлым. Выпілі яшчэ. Ён расказаў смешную гісторыю. Рудзін пачаў было перакладаць, але Біркнер, глянуўшы на паніклага Шчукіна, сказаў:**

**—Ну яго к чорту, ён ужо, здаецца, пераходзіць у стан вепрука.**

**Яны выпілі.**

**Шчукін сядзеў, здавалася, абыякавы да ўсяго.**

**Западозрыўшы, што Шчукін перабольшвае сваё ап'яненне, Рудзін вырашыў паказаць, што ён таксама п'янее, і адразу прыкмеціў на сабе ўважлівы позірк Біркнера.**

**У гэты момант увайшоў ардынарац Біркнера і выклікаў яго да тэлефону. Біркнер выйшаў. Шчукін падняў цяжкі, але цалкам ясны позірк на Рудзіна і сказаў:**

**— Улічыце, ён ведае рускую мову.**

**Рудзін даслоўна замёр.**

**У гэты ж момант вярнуўся Біркнер. Абдумваць здарыўшагася Рудзін не меў часу. Ён толькі мог пасіўна чакаць далейшага разгортвання падзей.**

**— Званіў Мюлер, — сказаў Біркнер. — У яго таксама госці, і ён прасіў перадаць, што яны выпілі за ваша ўзнагароджанне. Будзем, Крамер, ветлівымі і вып'ем за наша начальства.**

**— З прыемнасцю.**

**Яны выпілі.**

**— Не, мне не падабаецца наш Шчукін, — раптам заявіў Біркнер і пачаў трасці Шчукіна за плечы. — Які вы, к чарцям, рускі, калі з двух кілішкаў валіцеся? Ну, выпіце. — Біркнер падсунуў яму бакал з каньяком.**

101



 

